# Толькі РАЗАМ

кастрычнік 2011 №7 (12)



Інфармацыйна-культурніцкае выданне Гомельскага філіяла ТБМ. Заснаванае ў жніўні 2010 г.


* * *

Пакуль ад самоты
наш дах не з'ехаў,
Не запрасіў лістапад
у бяздонне —
Куфлі вышэй!
Ды каб за небяспеку,
Права спяваць
і пра вартае мовіць.
Хай будуць дуб,
і пярсцёнак,
і хваля,
Носіцьмем краты на сэрцы
і прагу.
Куфлі вышэй!
Каб свабода надалей
Здолела знішчыць нясцерпную смагу.
Не.
Палымяных параза не схопіць.
Неабыякавым
слоту не высніць.
Куфлі вышэй!
Прамяністыя, хопіць
Піць малако за абстрактную існасць.

Ганна Новік

# 23 кастрычніка адбыўся XI з'езд ТБМ

У ім прыняло ўдзел каля 120 дэлегатаў з усёй рэспублікі, у тым ліку ад Гомеля і Гомельскай вобласці – 8 чалавек. З'езд праходзіў у Чырвоным касцёле і быў арганізаваны на даволі высокім узроўні: не было доўгіх нудных дакладаў, строга вытрымліваўся рэгламент. З выступоўцаў можна ўзгадаць В.Вячорку, які даволі крытычна і ў той жа час трапна ахарактарызаваў сучасны стан беларускай мовы, адзначыў, што зараз ён проста катастрафічны і пагаршаецца з кожным годам. Так, паводле апошняга перапісу, беларускай мовай карыстаецца толькі 30% насельніцтва, значыцца, беларуская мова перайшла ўжо афіцыйна ў статус мовы меншасці, і ёй пагражае знікненне. Сітуацыя зараз горшая , чым у часы камуністычнай улады, - падвёў вынікі сваёй прамовы дакладчык. В.Вячорка і быў прапанаваны на пасаду намесніка старшыні, але ўзяў самаадвод. Такім чынам, змен у кіраўніцтве арганізацыі не адбылося. А.Трусаў пасля галасавання адзначыў, што застаецца на гэтай пасадзе апошні тэрмін, бо даўно ўжо наспела неабходнасць абнаўлення таварыства.

Напрыканцы з'езда былі прыняты зварот да ўладаў з прапановай абвясціць наступны 2012 год "Годам беларускай мовы" і праект закона "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь". Гэты праект будзе разасланы ў адпаведныя дзяржаўныя органы, але зразумела, што ў сучасных умовах прыняты ён не будзе і таму падрыхтаваны на перспектыву. Таксама дэлегаты выказаліся за неабходнасць выкладання ў школах геаграфіі і геаграфіі Беларусі толькі на беларускай мове, таксама за патрэбнасць стварэння паўнавартаснага і цалкам беларускамоўнанга тэлевізійнага канала.

Пасля з'езда адбылося паседжанне новастворанай Рэспубліканскай Рады, у склад якой ад Гомеля ўвайшлі Максім Новік, Яўген Якавенка і Анатоль Бароўскі. На Радзе быў зацверджаны Сакратарыят таварыства, вызначаны новы памер сяброўскіх складак і была абраная рэдакцыйная калегія "Нашага слова", куды, па прапанове А.Бароўскага, быў уключаны і прадстаўнік нашага горада, старшыня Гомельскай гарадской арганізацыі Максім Новік.

Такім чынам, XI з'езд адбыўся ў вельмі нялёгкі для нашага грамадства час, калі большасць незалежных арганізацый знаходзіцца ў заняпадзе і падзелена на "нашых" і "нячэсных" Таму добра, што Таварыства беларускай мовы ў такіх умовах працягвае сваю дзейнасць, мае рэгістрацыю, сядзібу і еднасць у сваіх шэрагах. І будучыня беларускай мовы залежыць не ад існуючай улады і не ад А.Трусава, якога, на мой погляд, зараз крытыкуюць даволі беспадстаўна, а ад кожнага з нас.

**наш кар**.



## Нілу Сымонавічу Гілевічу 30 верасня споўнілася 80 гадоў

Гомельская філія ТБМ правяла імпрэзу з нагоды 80-годдзя беларускага паэта і заснавальніка Таварыства беларускай мовы

Усе прысутныя - у амаль хатняй атмасферы, з кубкам гарбаты - паслухалі ўспаміны-расповеды гамельчукоў, асабіста знаёмых з паэтам: Дзмітрыя Паўлаўца, Ніны Шкляравай ды Анатоля Бароўскага. Апошні, у сваю чаргу, прапанаваў патэлефанаваць Нілу Сымонавічу і пры дапамозе гучнай сувязі папрасіў яго сказаць некалькі слоў для сяброў гомельскага Таварыства беларускае мовы. Гамельчукі падзякавалі паэту за ягоныя шчырыя словы, а бард Вальжына Цярэшчанка праспявала ўрывак з песні, напісанай на музыку "Паланэза Агінскага".

Апроч гэтага, на вечарыне прайшло падпісанне віншавальных паштовак Нілу Гілевічу. Па тэлефоне было вырашана не віншаваць, бо загадзя не віншуюць.

**euroradio.fm**

# творчыя сустрэчы

Нарэшце адбылася доўгачаканая падзея для нашых маладых творцаў з гомельскай школы-студыі "Малады літаратар", якой ужо 5 год кіруе беларуская паэтка Ніна Шклярава. У бібліятэцы імя Герцэна прайшла літаратурная вечарына, дзе былі прадстаўлены кнігі з серыі "Аз", якую заснаваў паэт Іван Бісеў, і кнігі з серыі "Бібліятэчка школы-студыі "Малады літаратар", заснавальнік якой Валерый Вятошкін, аўтар кнігі "Холсты небес". Ганарыцца наша школа такімі таленавітымі людзьмі, як Стася Кацюргіна, Вольга Астапенка, Таццяна Нілава, Марыя Маліноўская, Іна Спасібіна, Дар'я Дарошка і Уладзімір Чаравухін, Сяргей Прывалаў. Кожны з іх ужо мае свае ўласныя зборнікі, а некаторыя - нават не адзін. Так, у гэтым годзе амаль аднагачасова пабачылі свет дзве кнігі лірыкі Стасі Кацюргіной: адна ў серыі "Аз" ("Пад ветразем ранку"), другая ў "Бібліятэчцы школы-студыі «Малады літаратар»" ("Парасон"). Дзяўчына прысвяціла свае вершы вечнай тэме – тэме кахання. Мілагучная, пранікнёная, музычная, паэтычная мова Стасі – самая сапраўдная жаночая паэзія.

Кнігі Вольгі Астапенка (" Проходя сквозь свет") і Таццяны Нілавай ("Пять тысяч километров по любви") таксама прысвечаныя каханню. Пра адну і тую ж тэму пішуць дзяўчаты, але як адметна перадае кожная свае пачуцці і думкі!

Сярод кніг нашых маладых аўтараў ёсць зборнік прозы, які выйшаў у "Бібліятэчцы школы-студыі«Малады літаратар»". Аўтар яго – Сяргей Прывалаў. Зборнік прозы пад назвай "Время дракона" падаецца адразу ў двух варыянтах: на рускай і беларускай мовах. Дарэчы, пераклад на беларускую мову ажыццявілі Ганна Новік і Марыя Булавінская.

Трэба сказаць і пра такія таленты, як Ганна Новік, Алесь Бараноўскі, Надзея Філон. Ганна Новік з'яўляецца аўтаркай зборніка "Сумёты агню", які пабачыў свет у 2010 годзе. Алесь Бараноўскі мае ўжо тры кнігі, адна з якіх – навуковыя артыкулы па творчасці Ніны Шкляравай.

Адназначна, мы не збіраемся спыняцца на дасягнутым. Школа "Малады літаратар" мае вельмі шмат таленавітых дзяўчат і хлопцаў, якія, спадзяюся, пакінуць значны след у літаратуры нашай краіны.

**Ала Дарашэнка**

# аксамітныя чытанні



21 кастрычніка ў Гомельскім музеі гісторыі горада адбыліся "Аксамітныя чытанні", прысвечаныя культуры і жыццядзейнасці горада.

"Аксамітныя чытанні"- творчыя сустрэчы заснавальнікаў газеты "Аксамітны жах" (выдавалася ў 90-я гг.).

Па словах навуковага супрацоўніка Веткаўскага музея народнай творчасці імя Ф. Шклярава Андрэя Скідана, газета базіравалася на пытанні урбса і была фактычна справакаваная горадам, таму для "Аксамітнага жаху" гэтае пытанне актуальнае і жывое:

- На сённяшні час газета не выходзіць – няма той выдавецкай сітуацыі. Але пакуль мы жывыя, мы збіраем людзей, каб усё-ткі адсачыць, чым людзі жывуць, пра што яны думаюць. У інтэрнэце на сайце gp.by ідзе актыўная размова з нагоды захавання драўлянай забудовы Гомеля, але інтэрнэт – прастора абмежаваная, яна безасобасная: мы не можам пабачыць адзін аднаго і не можам выказацца. Таму мы вырашылі сустрэцца з людзьмі непасрэдна, так бы мовіць- у прамым эфіры.

На жаль, большасць з запрошаных гасцей па нейкіх прычынах не прыйшлі на "чытанні". Таму праграма вечара была экспромтам. Тут уздымаліся пытанні духоўнага збяднення Гомеля і знішчэння яго старой архітэктуры. Гэтая тэма, як высветліліся, актуальная ва ўсім свеце.Што застанецца ад нашага горада праз 10-20 год – пытанне застаецца адкрытым.

Яўген Малікаў, выкладчык БелДУТа, гісторык:

-Спрэчка, якая разгарнулася на gp.by з нагоды захавання драўлянай забудовы, мае плён. Яна крышталізуе цікавыя моманты праблемы, яна выцягвае новых людзей – тых, хто любіць Гомель. Засталося толькі пазнаёміцца з імі ўжывую. Справа ў тым, што абмеркаванне захавання забудовы–знешні бок праблемы, бо гаворка тут насамрэч ідзе пра захаванне душы Гомеля. У Гомелі будзе стары драўляны горад. Гэта непазбежна! Адзінае, што ён можа з'явіцца праз 20 гадоў, калі ўжо гэтых драўляных дамоў не будзе, але будуць іншыя – забудова 50-х.

Усіх неабыякавых да лёсу горада заклікаем як мінімум праяўляць цікавасць да тэмаў захавання забудовы на сайтах і ў сацыяльных сетках. Як максімум: не саромецца праявіць сябе. Выходзьце на сувязь, выносьце свае прапановы за межы сеціва! Ад вашай актыўнасці залежыць будучыня горада!

**Марыся Тульжанкова**

# ЦІ ТРЭБА НАМ БАЛОНСКАЯ СІСТЭМА?

## ПЛЮСЫ - МІНУСЫ, ПЕРСПЕКТЫВЫ - НАСТУПСТВЫ

**Балонскі працэс: што гэта?**

Балонскі працэс – гэта працэс збліжэння і гарманізацыі сістэм адукацыі краін Еўропы. Яго мэтай з'яўляецца стварэнне адзінай еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі, а таксама актывізацыя еўрапейскай сістэмы вышэйшай адукацыі ў сусветным маштабе. Балонская сістэма вышэйшай адукацыі была падпісаная 19 чэрвеня 1999 года ў г. Балонння (Італія) міністрамі адукацыі 29 еўрапейскіх дзяржаў.

Дзесяць асноўных кірункаў Балонскага працэсу:

1. Прыняцце сістэмы агульназразумелых, параўнальных кваліфікацый (ступеняў);
2. Укараненне дзвюхступеннай сістэмы вышэйшай адукацыі (бакалаўрыят – магістратура);
3. Ужыванне сістэмы заліковых адзінак (акадэмічных крэдытаў), колькасць якіх залежыць ад аб'ёму гадзін па дысцыпліне і адлюстраванне навучальнай праграмы ў дадатку да дыплома, узор якога распрацаваны ЮНЭСКА;
4. Развіццё акадэмічнай мабільнасці студэнтаў, выкладчыкаў і адміністрацыйна-кіраўнічага персанала;
5. Узаемнае прызнанне кваліфікацый і адпаведных дакументаў у вобласці вышэйшай адукацыі, забеспячэнне аўтаномнасці ВНУ;
6. Развіццё еўрапейскага супрацоўніцтва ў вобласці забеспячэння якасці вышэйшай адукацыі;
7. Навучанне на працягу ўсяго жыцця;
8. Актывізацыя ўдзелу ВНУ і студэнтаў у развіцці Балонскага працэсу;
9. Узмацненне еўрапейскага складніку ў сістэме вышэйшай адукацыі Еўропы;
10. Увядзенне дактарантуры ў агульную сістэму вышэйшай адукацыі (у якасці трэцяга ўзроўня); аб'яднанне Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі і Еўрапейскай прасторы навуковых даследаванняў.

Таксама Балонская сістэма ўключае ў сябе змены ва ўзроўнях атрымання вышэйшай адукацыі.

Сістэма параўнальных ступеняў прадугледжвае трохузроўневую сістэму вышэйшай адукацыі:

першы ўзровень – бакалаўрыят (ступень «бакалаўр»);

другі ўзровень – магістратура (ступень «магістр»;

трэці ўзровень – дактарантура (ступень «доктар філасофіі») .

*На дадзены момант Балонскую сістэму вышэйшай адукацыі ўжо прынялі 46 краін Еўропы, за выключэннем Беларусі*

Паводле апошніх звестак, Міністэрства Адукацыі нашай дзяржавы збіраецца прыняць Балонскую сістэму ў лютым 2012 года. Што ж чакае тых, хто будзе атрымліваць вышэйшую адукацыю пасля прыняцця сістэмы адукацыі еўрапейскага ўзору? Якія ж магчымыя наступствы і перспектывы Балонскай сістэмы вышэйшай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь? Бо, як вядома, у медаля два бакі. Давайце паразважаем.

**Якія плюсы?**

Як толькі Беларусь стане паўнавартаснай удзельніцай Балонскага працэсу, перад беларускімі студэнтамі адкрыецца мноства перспектыў. Асноўнай з іх, вядома, з'яўляецца палягчэнне ўладкавання на працу за межамі Беларусі дзякуючы дыплому еўрапейскага ўзору. Гэта дазволіць працадаўцам не блытацца ў розных сістэмах адзнак, што, у сваю чаргу, павялічыць лаяльнасць да выпускнікоў беларускіх ВНУ за мяжой.

Другім важкім плюсам з'яўляецца вольны выбар студэнтамі дысцыплін для вывучэння. Гнуткі падыход да працэсу навучання, яго індывідуалізацыя дазволіць студэнтам практычна самастойна рэгуляваць працэс навучання. Яшчэ адна перавага дае еўрапейская сістэма крэдытаў. Пасля яе ўвядзення студэнты змогуць назапашваць вызначаную колькасць крэдытаў, прыпыняць сваю вучобу і аднаўляць яе па жаданні – гэта значыць, фактычна, вучыцца на працягу ўсяго жыцця, як гэта робяць жыхары Еўропы ці Амерыкі.



Акрамя таго, уступленне Беларусі ў Балонскі працэс дазволіць палепшыць імідж вышэйшай школы нашай краіны, якая стане часткай агульнаеўрапейскай сістэмы вышэйшай адукацыі.

Таксама нельга не адзначыць той факт, што падпісанне Рэспублікай Беларусь Балонскай сістэмы вышэйшай адукацыі дазволіць павялічыць прывабнасць і канкурэнтаздольнасць нашай нацыянальнай адукацыі ў сучасным свеце.

Больш таго, жаданне сачыць за развіццём працэсаў адукацыі на еўрапейскай прасторы ў беларускіх навукоўцаў і педагогаў вялікае. Таму што менавіта праз вышэйшую школу фарміруецца кадравая перспектыва, вядуцца даследаванні, ствараюцца асновы тэхналогій. З часам стала зразумела, што рашэнні Балонскага працэсу носяць рэкамендацыйны характар. Гэта значыць, Беларусь зможа будаваць сваю сістэму адукацыі, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў, а сістэма развіцця Балонскага працэсу дапаможа нам сачыць за адукацыйнымі

працэсамі ў сусветнай прасторы і ўдзельнічаць у іх. Яна мяркуе распрацоўку вызначанай адукацыйнай палітыкі ў дэмакратычным аспекце, і развіццё нашай нацыянальнай сістэмы адукацыі не супярэчыць гэтай неабходнасці.

**Якія мінусы?**

Нягледзячы на выгоду агульнаеўрапейскай сістэмы адукацыі, у яе ёсць свае мінусы.

Напрыклад, у Санкт-Галенскам універсітэце (Швейцарыя), першым, які перайшоў на новую сістэму, большасць прафесараў і дацэнтаў не хаваюць, што рэформа негатыўна адбілася на адукацыйным працэсе. Найболей адчувальна стандартызацыя вучобы і ўвядзенне сістэмы заліковых балаў (крэдытаў) стукнулі па гуманітарных аддзяленнях.

Па адзнаках расійскіх экспертаў у вобласці адукацыі, далучэнне да Балонскага працэсу можа спарадзіць блытаніну з навучальнымі праграмамі і магчымыя праблемы ў працаўладкаванні людзей з дыпломам бакалаўраў. Бо чатырохгадовы бакалаўрыят, які не так даўно спрабавалі ўвесці і ў Беларусі, успрымаецца працадаўцамі як няпоўная вышэйшая адукацыя праз істотна скарочаную праграму навучання ў параўнанні з праграмамі спецыяліста (5-6 гадовае навучанне) і магістра (6-гадовае навучанне). Прычым атрыманне ступені магістра, напрыклад, можа пасля стаць толькі платным.

Таксама хацелася б адзначыць тое, што асабіста мне давялося бачыць. Ва Ўкраіне, дзе ўжо ўведзеная Балонская сістэма, пасля 4-х гадоў навучання выдаецца дыплом бакалаўра. З такім дыпломам вельмі цяжка ўладкавацца на працу, бо бакалаўр – гэта няпоўная вышэйшая адукацыя. А для таго, каб далей працягнуць навучанне на больш высокую ступень (магістр), трэба плаціць велізарную суму грошай. Вядома, не ў кожнага студэнта знойдуцца грошы для аплаты навучання. Такім чынам, яны (студэнты) не змогуць далей у поўнай меры выявіць свае здольнасці і рызыкуюць назаўжды застацца «проста бакалаўрамі» праз тое, што не змогуць пераадолець «грашовы бар'ер». Зыходзячы з усяго гэтага, можна прадказаць тое, што мноства таленавітых дзяўчын і маладых людзей застануцца малаадукаванымі, у той час як іншыя, хай і меней таленавітыя, але больш багатыя людзі змогуць атрымліваць вышэйшую адукацыю і пасля займаць добрыя працоўныя месцы.

У Расіі лічаць, што з падзелам навучання на два цыклы паўстануць праблемы ў тых, хто атрымае толькі ступень бакалаўра. Іх, як «недавучаных» адмыслоўцаў, будуць неахвотна браць на працу. У такіх еўрапейскіх краінах, як Францыя, Грэцыя, Сербія выкладчыкі, студэнты і школьнікі выступаюць з пратэстамі супраць Балонскага працэсу. Так, у Грэцыі і Сербіі ў іх атрымалася вымусіць урад адмовіцца ад навязвання прынцыпаў Балонскай дамовы, г.зн. прыватызацыі адукацыі.



Вядома, калі разважаць разумна, то не ўсе прынцыпы дэкларацыі можна ўжыць у адносінах да пэўных спецыяльнасцей. Да прыкладу, што такое ступень бакалаўра для нашай вышэйшай медыцынскай адукацыі? Ці ўявім сабе фізіка-ядзерніка, які правучыўся тры гады і атрымаў ступень? Хіба будуць гэтыя людзі мець досыць ведаў? Безумоўна, не! А гэта значыць, што ў датычна некаторых спецыяльнасцях увядзенне двухцыклавага навучання бяссэнсоўнае і можа зрабіць вялікія страты якасці.

**Падагульнім усё вышэйсказанае:**

Узаемнае супрацоўніцтва еўрапейскіх сістэм адукацыі – працэс патрэбны і карысны, проста ўсе новаўвядзенні варта рабіць асцярожна і паслядоўна.

Немагчыма сказаць адназначна, дрэнна ці добра, калі Беларусь прыме Балонскую сістэму вышэйшай адукацыі. Але вядома, што трохузроўневая сістэма вышэйшай адукацыі не зусім актуальная для Беларусі, бо, па досведзе, напрыклад, Украіны, з'явяцца «грашовы бар'ер» і праблемы з працаўладкаваннем грамадзян, якія атрымалі дыпломы бакалаўраў. Таксама можна звярнуцца да вышэйапісаных наступстваў Балонскай сістэмы ў Францыі, Грэцыі, Сербіі.

З іншага боку, падпісанне Рэспублікай Беларусь Балонскай сістэмы дазволіць павялічыць прывабнасць і канкурэнтаздольнасць нашай нацыянальнай адукацыі ў сучасным свеце, а таксама дазволіць Беларусі стаць часткай агульнаеўрапейскай сістэмы вышэйшай адукацыі.

**Дзмітрый Разгон**

# Кавярня, дождж, Анатоль Зэкаў



**Праца**

Зараз я працую ў “Вясёлцы”-- газеце для самых маленькіх. Вяду там рубрыку“Каласавічок” для дашкольнікаў (такія вось маленькія вершыкі). У “Вожыку” працаваў, там гумар збольшага быў, вельмі шмат вершаў і казак. Зараз ён раз у квартал выходзіць, а раней выходзіў штомесяц.

**Ні дня без радка?**

У мяне бывае, што вершаў магу не пісаць паўгады, ніводнага радка. Не пішуцца вершы, ну і не пішуцца. Пішу тады для дзяцей-- казкі, прозу… Вось дзесьці зачапіла, пішу на паперцы, а пасля перапісваю сабе ў асобныя сшыткі, нягледзячы на тое, што цяпер камп’ютары ёсць. У мяне так павялося, яшчэ з мінулых часоў. Асобна пародыі, асобна дзіцячае, асобна вершы . Бывае, і пасля працы пішу, застаюся, калі няма дзённай мітусні.

Часам за тыдзень напішацца вершаў 15-20. Але гэта не значыць, што ўсе трапяць у друк. Нешта дапрацоўваецца, нешта так і застаецца, нікому не прапаную яго. Вершы пад настрой пішуцца. Вечарам, можна і ўноч. Але большасць пішу на працы.

**Пра паэтаў**

Паэт - ён і на вуліцы паэт, і ў тралейбусе паэт. Ён едзе і думае. У Пісьмянкова нават такі цыкл ёсць --“Думаць вершы”. Праўда, не яго прыдумка: Тодар Кляшторны пра гэта калісьці гаварыў. Сапраўды, Пісьмянкоў думаў вершы.

Паэт піша эмоцыямі, жэстам, а празаік больш прыземленымі рэчамі, бо трэба выседзець. Паэт можа хадзіць і пісаць, а празаіку трэба садзіцца і працаваць з дня ў дзень без перапынку, калі нейкую сур’ёзную рэч піша, бо перарвешся-- забудзеш і герояў, і сюжэтную лінію…

**Прафесар Грынчык**

Грынчык выкладаў у нас фальклор і штосьці з літаратуры. Па Куляшову манаграфію напісаў; вельмі любіў “радаваць” студэнтаў пісьмовымі работамі.

Неяк Грынчык даў нам заданні, і адно з іх было “якое дыялектнае слова ўжываецца даволі часта ў вершах Куляшова?”. Ні на адно пытанне я дакладна адказаць не мог, і таму напісаў вершаванае чатырохрадкоўе:

Цяпер сяджу, шукаю слова  
Сярод ўсялякіх іншых слоў.  
І што за слова ў Куляшова,  
Якога Грынчык не знайшоў?

Ён прыходзіць на наступны раз і кажа: “Так, на ўсе пяць пытанняў ніхто правільна не адказаў, на чатыры – столькі чалавек, на тры – столькі. Але ёсць адна работа, у якой ні на адно пытанне не адказаў студэнт, але я пастаўлю пяцёрку, таму што даволі арыгінальна напісана”. І зачытаў мой адказ. Пасля Грынчык прыходзіў часам на лекцыю і казаў: “А ты чаго тут сядзіш?”—“Ну дык у Вас лекцыя…”—“ Гэта для іх лекцыя, а ты ідзі вершы пішы”.

Мог такое сказаць: “ Кніжку маю не купілі, а шніцалей ў сталовай, відаць, па два і па тры набываеце, а кніжка ўсяго адзін шніцаль каштуе”.

Вось такі ён быў, па-сялянску, пamужыцку просты. Але яго паважалі. Ён у кампартыю так і не ўступіў. Загадчык кафедры на той час --і не член партыі быў. Ён прыехаў у Гомель з Мінску; працаваў у Інстытуце літаратуры АН БССР, а пасля, калі ствараўся Гомельскі ўніверсітэт, яго перавялі ў Гомель. Потым зноў вярнуўся ў Мінск і быў загадчыкам кафедры літаратуры інстытута культуры. З ім сяброўста ладзілі шмат хто з пісьменнікаў. І Макаёнак да нас прыязджаў, і Броўка,і Грачанікаў, і яны чыталі вершы, і мы таксама. Да гэтага памятаю, як Броўка мяне абняў, але яму не дазвалялі тады шмат гаварыць -праблемы з горлам былі.

**Грачанікаў**

Грачанікаў таксама адыграў у маім лёсе ролю, па-сутнасці, першая мая кніжка дзякуючы яму выйшла. Тады ў мяне ў “Мастацкай літаратуры” ляжала кніжка, і пачынала выдавацца бібліятэка «Маладосці»”. А Грачанікаў быў тады галоўным рэдактарам. І неяк мы ехалі з ім у машыне. Ён кажа: “Ты рукапіс здаваў у “Мастацкую літаратуру”. Забяры яго ды прынясі мне, мы яго выдадзім нашмат хутчэй”. Я так і зрабіў, а потым яшчэ і прозу маю выдалі ў “Маладосці”.

**Графаманы і беларуская мова**

Ёсць і такія. На рускай мове нават у “Полымя” нясуць. Я кажу: “Дык гэта не да нас, у «Нёман» нясіце”.--“Я ўжо ў «Нёман» адзін раман занёс, а гэта вам”.-- “Мы друкуемся на беларускай мове” .--“Дык вы што, перакласці не можаце?” .--“Мы перакладаем тое, што цікавіць чытачоў”.-- “Дык а што, маё не цікавіць?”.-- “Я не ведаю, не чытаў”.--“Дык пачытайце”.-- “У мяне хапае беларускіх, выйдзе ў «Нёмане»-- я пачытаю Вас, пішыце па беларуску”.-- “Вось БНФаўцы заселі, няма дзе і надрукавацца!”.

**Выступленні**

Часам, калі выступаю, то напрыканцы абыгрываю сваё прозвішча : “Зайздрошчу тым, хто зэкам стаў, сядзяць і ў вус не дзьмуць.. цэны іх не цікавяць, і ўсё ў іх нармальна. А мне .. і столькі здзекаў, і прозвішча, здаецца, Зэкаў --а я ні разу не сядзеў. А так хачу, ды не даюць мне, як на зло, такую радасць. Таму вось тут я і стаю, пайду, напэўна, лепей сяду”-- і я іду ў залу і саджуся.

## ДВА РАНЕТЫ

*Сонца ў небе залатым ранетам.*
*Дасяваюць яблыкі ў садах.*
*І плыве над роснаю планетай*
*П'янаваты яблыкавы пах.*
..............................................
*І глядзяць на золку сарамліва*
*Спелыя два ябыкі твае.*

*Міхась Башлакоў*

Рыфмавалі ўсё паэты
Дзесяць год назад і сто,
Ды на два твае ранеты
Не зважаў чамусь ніхто.

Я адзін бадай заўважыў -
І аж кругам галава.
На руках я іх не важыў
І на зуб не спрабаваў,
Але ведаю і гэтак,
Бо не быў бы малады,
Што такія два ранеты
Адшукаеш не заўжды.

## АДКУЛЬ СЫНЫ?

*Ты ж маўкліва вінаваціш:*
*Я не ўчэпіст і нядуж.*
*Слодычна паплачаш маці,*
*Што ў цябе нягожы муж.*

*Павел Вераб'ёў*

Жонка, ты дарэмна маці
Скардзішся на тое, бы
Анічога ў нашай хаце
Я з жаніцьбы не рабіў.
Валіш на мяне грахі ўсе,
Што не ўчэпіст і нядуж.
Я ж хіба таму жаніўся,
Каб цягнуць сямейны гуж?
Мо, у чым і вінаваты,
Ды не бачу ў тым бяды.
Кажаш ты, што муж няздатны -
А сыны адкуль тады?

## ЦІ КАХАЕШ?

*Кахаю?*
*Зразумець я не магу.*
*Тваёй усмешкай*
*Дзень я адкрываю.*
*Сябе ж усю - адкрыць я не магу,*
*Каб ты паверыў,*
*Як цябе кахаю.*

*Таіса Мельчанка*

Кахаю?
Цяжка зразумець.
Калі і так,
То як дакажаш?
Згубіўшы галаву, ляцець?
Аднак і сорамна, і страшна.

Усю сябе аддаць? А як?
Сяброўка распрануцца раіць.
Але ж ці ўбачыш ты, дзівак,
Па мне і голай,
Што кахаю.

З табой прасцей на шмат куды:
Свае намеры не схаваеш.
Хай толькі распранешся ты -
Адразу ўбачу,
Ці кахаеш.

* * *

Хоць малюся і ночы, і дню,
А дагэтуль, прызнацца, не знаю,
Ці я стыну ў "Сумётах агню",
Ці ў "Сумётах агню" я згараю.

То іду, то бягу, то лячу,
У сумёт правалюся, бывае...
З яго выбрацца ўгору хачу,
Ды агонь яшчэ вышай шугае.

## ВЕРШ-СПАКУСНІК

*Быццам бы каханню, аддаюся вершу.*
*Да крывінкі, аж да дна душы.*

*Таццяна Дзмітрусёва*

Мяне верш клікаў на спатканні
У росны луг, што ўскрай сяла.
Яму хацелася кахання,
А я цнатліўкаю была.

Ён так падміргваў мне спакусна
І, не губляючы надзей,
Цягнуўся дактылем да вуснаў
І лез харэем да грудзей.

Гатовы на мяне маліцца,
Ён не наладжваў буйных сцэн,
Рэфрэнам прагнуў прытуліцца,
Каб я адчула той рэфрэн.

За мною след у след ён крочыў,
Паглядам спапяляў датла.
І не ўтрывала я аднойчы -
Сваю цнатлівасць аддала.

Маю душу ён так усцешыў
Сярод пустых кватэрных сцен,
Што зноў хачу сустрэцца з вершам,
Каб зноў адчуць яго рэфрэн.

---

**Зэкаў Анатоль Мікалаевіч** нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна.Паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, перакладчык. Таксама працуе ў жанры сатыры і гумару (літаратурныя пародыі, байкі, сатырычныя мініяцюры, гумарыстычныя вершы), піша для дзяцей (вершы, апавяданні)



# Рагачоў у 1772 -1795 гг.

Чамусьці ніколі не хацелася чытаць і глядзець гісторыю Расіі ў выкананні саміх расіян. Але натрапіў на серыю дыскаў "Ілюстраваная гісторыя Расійскай дзяржавы", прагглядзеў. Як і чакаў, пра Беларусь нічога. Калі былі якія мапы, можна было бачыць на іх толькі землі Украіны, Польшчы, Літвы. Пра паўстанне 1830-х г. было згадана, пра 1863 г. - нічога. Але што здзівіла: калі размова ішла пра Кацярыну Другую, нічога сказана не было пра падзел Рэчы Паспалітай. Напэўна, у гісторыі Расіі гэта нязначная падзея. І вырашыў я знайсці крыху інфармацыі пра тыя часы ў кантэксце гісторыі Рагачова.

Калі быў малы, ведаў, што з Замкавай гары праз Дняпро бачны насып дарогі. Называлі яе Кацярынінскі шлях. Па гэтаму шляху яна прыязджала ў Рагачоў. Непадалёк ад Рагачова ёсць вёска Гадзілавічы. Паданне кажа, што жыхары не пакланіліся вялікай царыцы, і яна іх назвала гадамі, адсюль назва - Гадзілавічы. У вёсцы Збароў ёсць феадальнае гарадзішча: Каціна гара. Тут імператрыца згубіла сваю карэту (залатую). Яшчэ з дзяцінства, з 5-6 класа, у мяне захоўваецца 5 медных капеек тых часоў (сімвалічны 1772 г). Манету прадаў сусед Дзіма Наддачаеў(знайшоў на агародзе бабулі, каля цяперашняй бальніцы), а іншую, наміналам 2 капейкі, памяняў на акварыўм. Я тады яшчэ не ведаў пра існаванне ВКЛ і манет, якія хадзілі ў тыя часы, але ўсё роўна набыў іх.

Паводле першага падзелу РП, у 1772 годзе да Расіі адыходзілі землі сучаснага Рагачоўскага раёна. Мяжа праходзіла па Друці (левым беразе). Але былі і незадаволеныя. Так, 17 жніўня 1771 г. "мяцежнікі з-пад Рагачова і Гомеля" спалілі казачы лагер Чарнігаўскай і Старадубскай канцылярыі. Расійскія пасты ўжо стаялі ў Рагачове ў 1771 годзе, таксама быў правіянцкі магазін, які папаўняўся за кошт ваколіц.

У той час Рагачоў уваходзіў у Магілёўскую губерню, а сам горад набыў статус правінцыяльнага. У горадзе была арганізаваная новая структура ўлады (правінцыяльная канцылярыя на чале з камісарам і ў складзе ваяводы, павятовага камісара, пракурора, правінцыяльнага сакратара). У Рагачове была адкрыта мытная кантора, у якой працавалі чыноўнік і касір. Новая адміністрацыя пачала работу з інвентарызацыі зямлі. Землі, якія належалі РП, пераходзілі да Расійскай імперыі, спадчынныя ж землі пакідаліся ўласнікам. У канцы жніўня 1772 рагачоўцы прысягалі на вернасць імператрыцы. Хто не прысягнуў - высылалі за мяжу. Галоўнай сілай супраць правядзення расійскай палітыкі ў краі было каталіцкае духавенства. З міласці імператрыцы на год новыя тэрыторыі былі вызваленыя ад падаткаў. У 1773-1780 гг. у Рагачове быў арганізаваны продаж солі, якую прывозілі са Смаленска. У 1781-1789 гг планавалася пабудаваць краму для продажу солі купцом Іванам Аржыцкім, але гэта не было зроблена: магілёўскі архітэктар В. Паўлаў не прадставіў план будаўніцтва.

Рагачоў тых часоў апісаў чыноўнік Гаўрыла Дабрынін: "У пустым замку, які парос травой, размешчана ўніяцкая царква, - пасярод горада на пясчаным беразе - другая, на ўзвышаным беразе Дняпра - базыльянскі драўляны стары кляштар і батальённая малая царква, якая нагадвае драўляны свіран з акном. Усе гэтыя грамадскія будынкі бедныя і старыя. Адныя толькі краявіды, ландшафты даюць перавагу Рагачову перад іншымі". У 1776 адкрытая паштовая кантора, а першым паштмайстрам быў Адам Алберг. Праз два гады створаная паштовая экспедыцыя, у штаце якой былі пісар і паштальён.

У 1780 г. у Рагачове было 326 жыхароў (на 11.08.1777 г. 250 мужчын - хрысціян і 76 яўрэяў), у гэтым годзе павет наведала Кацярына Другая. У 1778 г. быў зацверджаны план развіцця і будаўніцтва Рагачова.

16.08.1781 г. -зацверджаны герб Рагачова - чорны рог барана на залатым полі. У 1789 г. генерал -інжынеру і кватармайстру Боўру прадпісвалася пабудаваць у Рагачове крэпасць, але гэтага не здарылася, бо адбыўся другі падзел РП, і Рагачоў ужо пазбавіўся статуса памежнага горада.

**Андрэй Чарняўскі**
**малюнак Рагачова**
**У.Паладзенкі**



# КАХАННЕ і ГАШЫШ

Вясковы хлопец Васіль трапляе ў гомельскі вір, дзе яго чакаюць прыгоды, экстрэмальная вучоба, каханне і гашыш, а таксама небяспека. І хто б ведаў, што выратуе яго. .. (чытайце ў гэтым нумары сканчэнне паэмы **Алеся Плоткі**)

**Уваходзіць маёр**

- Імя?
- Васіль
- Па-бацьку?
- Саныч
- Ай, пункт другі, такую ж маць!
- Што? Маму? Маму – Света…
- Ды не, тут прозвішча ўпісаць…
- Ааа, дык гэта, можа я сам лепей?
- Паспееш сам…гадоў за сем...
- (разгублена) За сем??....
- Сем! За восем – вось дык восень!

(рагоча)
Чарговы жаваранак … сеў!
(пауза)
- Ну што, пацан, кажы адкуль сам!

Наркоты, млін, як пацукі…
- Ну гэта… Гомельская вобласць,

Пад Ельскам вёска Васількі,
Я не наркот!
- Ну да, а хто ж ?
- Ну гэта, гхм…філолаг я.
- Нарколаг ты! Ух, даў бы як!

З якіх балот да нас па ласку?
- Я з Васількоў, з Палесся я.

(пауза)
- Ты мне тут, хлопчык, харэ з казкай.
- Ды Левановічаў сям’я!
- Сямёнаў?
- Брата, Васіля!

А Вы што, ведаеце…?
- Маўчаць! пакуль пытаю я.
- Маўчу.
- Маўчаць!
- Маўчу..
- Маўчы! ..свіння…

Падсвінак ты з мурзатым брухам!



Ужо і нашых кайф адолеў…
Даўно бацькоўскі дрын ня нюхаў?
Ці мо ўжо нюхаеш што болей?
- Дык я…
-(паманьваецца)Няняняня…. “дык я, дык я”.

(сур’езна) Як Клаву звалі?
- Не Клава, Оля…ой..ой, мля….
- Што за Оля?

Маўчыш?
- Маўчу…
- Кажы !!!!! ..а то як дам рамня!
- Не трэба..
- А ўдувацца трэба?
- Дык я…
- (паманьваецца)няняняня…. “дык я, дык я”.

Пры-го-жа-я?
- Ага...
- Вось табе і ага,

Як даў бы, курва, па рагам!
- Ну што Вы, дзядзечка, не трэба.

Я проста, я кахаю,
Так, кахаю я!
- Во кажаш ты - “люблю, люблю”, а яна што?
- Не ведаю …
- Не-ве-да- Ю!

Касяк шмалю,
Олю люблю,
Аля-улю…
Рэпак раблю,
Трулюлюлю!

- Вось смешна Вам?
- Эгей, вядома ж!
- А Вы кахалі?
- Я?
- Няняня… ну не я…
- Як я кахаў, о Божа-Божаж…





Як мы з Сямёнам дзембельнуліс
- Дзядзька Сямён!
- Цыц! …твайго бацькі брат;
Пасля Афгану акурат
У гэным свеце апынуліс,
І мы знайшлі б сябе наўрад,
Калі б не жонкі...
Так, калі б не жонкі,
Калі б не жонкі
І самагонны апарат!
Мо будзеш чарку?
- Дык няма...
- Няма ў старлея ума!!!
- А у маёра ёсць заўжды!
То досвед, хлопчык!
То гады!
- Давайце, Вас як?
- Як хамяк! гагага
Васіль Аўгенавіч, маёр!
- Я Вася.
- Ведаю, фраёр!
- Я не фраёр, філолаг я!
- Так, ладна, цёзка, траляля.
Давай
- Давай… це
Уххх, якая, бачце!
-Ты думаў! То ж пярвак.
Тут і маркоўка, і бурак,
Тут і сцяжынка, і лясок,
Тут ў полі кожны каласок...
Усіх кахаю моцна я.
Уххх, самагоначка мая!
Дык якая?
- Што якая ?
- Оля што твая?
- Такая…..Оля…Оля! Оля-ля!
Дарэчы, можна пазваніць?
- Не, нам няма куды спяшыць!
Ось ты накаркаў: жонка! Тсс!
Але, так, Воленька, я ўзяў,
Ды не, аб чым ты, з кім мне піць
-Кхм кхм!
- Ага, смятанкі… хто кашляў?
Ээээ, ды тут зямляк - студэнт...
Так, з Васількоў!!!! Гастраляваў?
Ды не, дзяўчыну адбіваў!
Ага, як я тады на танцах.
Палескі ведаеш наш дух!
Траім навешаў аплявух!
Чаго сядзіць?
Дае ўсе звесткі.
А за вакном яго нявеста.
Ды зуб даю, як той Ван Дам.
Ага. Цалую. Передам

- Пабач - і сапраўды стаіць.
- Да ну?!
- Да ну - ка дну, ну што рабіць?
- Са мной?
- Ну не, блін, з Папай рымскім.
- Ну можа неяк…
Не па-свінску?
- Тады дамо ты мне распіску,
Што “Я, Васіль...”
- Што Вы - Васіль?
- Што ты. - Васіль!
- Ааа, што “Я, Васіль...”
- Давай пішы.
- Ага-ага
- Што ты - Васіль, і як мага
Не будзеш нікалі рага...
Не будзеш нікалі буха…
Ну ладна, ладна, то залішне.
Дай пагляджу, там што ты пішаш.
Так, - “Я, Васіль, і як мага
Не буду нікалі рага...”
Ага... угу... угу, ага... Га
Сваей нявесце настаўляць,
І сёння ж ноччу маю ўзяць
Яе за дупу тры разы,
А калі меней - дык глазы
Мае хай выпадуць,
Язык
Таксама выпадзе, і я,
Сляпая немая свіння...
Ты пішаш там, а ну пакеж!
- Так, я пішу, пішу, але ж…
- Але ж!.. бяляш тыднёвы з’еш!
Ну, што ня так?
- Ды трэба – ‘вочы’
- Ой, філолаг, блін, як хочаш!
Адно галоўнае, каб ноччу,
Пакуль я тут сабе сяджу,
Ты на паненку тую скочыў
І так яе каб раскурочыў,
Каб і трымцела, і крахцела,
Як у чароце жаба, чуў?

Ну, зразумеў, не чую, га?
- ...Дык нельга ж так…
- Што нельга..? льга!
Мяне ты слухай, будзе зэба!
Ты думаеш, з якой патрэбы
А пятай зранку пад вакном
Цябе яна стаіць, чакае
І ні хвіліны не губляе,
І погляд ейны з аганьком.
Цябе яна, мой хлопчык, хоча,
Аж чую водар з-пад спадніцы.
Так што давай, ты сёння ноччу -
Нібыта мэр па-над сталіцай.
І веткі транспартныя ўсе
Ў тваім самкнулісь чэлясе!
Ляцішь імчыш, то спыніш рух,
Каб курац зранку не апух
І лепшым быў юначы дух.
Прачнешся як – яе наверх
І аддыхаеш сам ўдвая,
Пакуль яна твайго каня
Сядлае, гойсае наспех!

- Распіска во, дык я пайду?
- Ідзі давай, ды не ваду,
А самагонкі роднай, чыстай,
Налі сваей перад ўрачыстай
Ты сэксуальнаю гульней!
І во яшчэ паслухай, стой:
Наш свет вялікі і малы,
І найвялікшае бяды
У ім няма, чымся калі
Мы нашых баб бы не дралі.
Тады б жанчыны ўсей зямлі
Ваўчынай зграяй загулі.
Такога нельга нам, Васілька.
- Вядома нельга… нельга, блін!
- А там што сэм, што канапля,
Адное - каб яе дзеля!
Я, ведаеш, было ў Афгане,
Такія спальваў кундзяля!
Так што давай шуруй, Васілька,
І твая родная зямля
Цябе чакае апасля -
Такіх жарэбчыкаў, што пашуць,
Не гледзячы на прамілля!
Дай абдыму, зямелька родны.
Ну ўсё, ідзі. Не-ве-ра-год-на...
Вось гэта сёння быў дзянёк!



- Вальжына! - Да, мой галубок!
Ой, Вася, Васенька ты як?
- Ну так, нармальна…
- Білі, так?
- Ды не, хіба маральна...
- Ну гавары штось. Моцна білі?
- Ды не. Ты ж бачыш - адпусцілі.
- І сапраўды. Во дура-дура!
А я ўжо да пракуратуры
Званіць хацела да юрыстаў,
Што кодэкс ведаюць празрыста.
Ой, Вася, Васенька, мой Вася!
- А што, юрысты ўсе кіўбасяць?
- Ну ўсе не ўсе, але палова,
Другая – сінія галовы,
Але апошніх ўсё радзей.
Ну, карацей, як у людзей.
- Ты бач, юрфак…. цікава нат!
А як жа трапіць ў інтэрнат?
- Куды яшчэ! Са мной ты сення,
Мой абаронца ты, мой воін!
Хадзем хутчэй, я ж цэнтравая.
Дома гарбата нас чакае,
І коўдра цеплая для ночы,
І да гарбаты што захочаш!

.. .І крочылі насустрач ночы,
Друг друга выпіць каб бальзам.
Гашыш-каханне-дзеўка-хлопчык...
Далей што была – думай сам.

КАНЕЦ

# Горад над Бугам

Горад Брэст упершыню ўзгадваецца ў летапісах у 1019 г. і з'яўляецца адным са старажытных гарадоў Беларусі. Вялікую славутасць у гэтым горадзе мае Брэсцкая крэпасць. Шлях да яе пралягае доўгі. З двух бакоў стаяць слупы са сцягамі. А недзе ўдалечыні ледзь бачна знакамітая зорка. Вялікая. Яе памер вельмі ўражвае. Гукі…. Жахлівыя старонкі мінулага паўстаюць перад вачамі. "Внимание, внимание. Говорит Москва. Сегодня вражеские войска вошли на территорию …." Гул самалетаў….. Удалечыні відаць групу людзей у форме. Яны фатаграфуюцца. І, відавочна, іх гэтыя гукі не уражваюць. Мабыць, я дзяўчына, і мяне менавіта таму закранула гэтае паведамленне…

Ёсць у Брэсце і яшчэ адна цікавінка : ліхтаршчык. Уявіце сабе: цемра, гучыць ціхая музыка, і ліхтаршчык адзін за адным запальвае павольна агеньчыкі. Усё гэта можна пабачыць на вуліцы Савецкай. Яна з'яўлецца пешаходнай і з аднаго боку пачынаецца помнікам да тысячагоддзя Брэста. З другога боку Савецкай стаіць гадзіннік, які паказвае час, калі трэба запальваць ліхтары. Шматвекавая еўрапейская традыцыя фактычна атрымала новае жыццё. У народзе нават пайшлі чуткі: калі загадаць жаданне, трымаючыся за гузік кашулі ліхтаршчыка, то яно абавязкова спраўдзіцца. Між іншым, гарадское асвятленне ўключаецца толькі пасля таго, як Віктар Пятровіч са сваёй нязменнай памочніцай-лесвіцай абыдзе ўсе 17 ліхтароў. Ну, як тут не паверыць у цуды!



здымак з http://kubl.livejournal.com

Я разам з іншымі з непадробленай дзіцячай цікаўнасцю назіраю, як ліхтаршчык па-майстэрску прыстаўляе лесвіцу да ліхтарнага слупа. Узбіраецца па ёй, адчыняе каваныя дзверцы, за якімі знаходзіцца звычайная газавая лямпа, і запальнічкай, прымацаванай ланцужком да дзягі, "запальвае святло". Выконвае рытуал артыстычна, няспешна, каб усе ахвотныя паспелі зрабіць фотаздымак на памяць. Затым акуратна зачыняе дзверцы, спускаецца ўніз і, паважна трымаючы свой капялюш, крочыць да наступнага ліхтара.

Ліхтаршчык запальвае апошні ліхтар — і ва ўсім горадзе адразу ўключаецца астатняе сучаснае вулічнае асвятленне. Хочацца задаць яшчэ некалькі пытанняў, але яго ўжо нехта паклікаў: "Пятровіч, паехалі!".

У 4.30 раніцы ліхтаршчык прыехаў гасіць ліхтары. Шчыра здзівіўся, калі ўбачыў мяне "на варце", пажартаваў: "Колькі журналістаў са мной запальвалі ліхтары, а вось "тушыць" будзеце вы першая".

**Ніна Козырава**




Беларус у Амерыцы выпадкова штурхае амерыканца і просіць прабачэння:
- I'm sorry.
Амерыканец адразу ў адказ:
- I'm sorry too.
Беларус, падумаўшы, адказвае:
- I'm sorry three.
Амерыканец:
- What are you sorry for?
Беларус:
- I'm sorry five!

***

20-ыя гады. Злавілі чырвоныя маскалі хахла і бульбаша. Карміць няма чым, трымаць няма дзе. Ну і загадалі аднаму стараму смарчку шлёпнуць іх недзе ў лесе. Вядзе гэты дзед іх на расстрэл. Хахол:
- Братка беларус, братка беларус. Глядзі дзед стары, як порхаўка, давай зараз навалімся абодва, стрэльбу адбярэм, дзеда ў расход...
- Не, не, не... А то яшчэ горш будзе...
Праходзяць колькі крокаў.
- Братка беларус, а братка беларус. Ну глядзі - дзед кволы і стары. А вунь лес. Давай ты направа, я налева. Ён і не зразумее нічога!
- Не, не, не... А то горш будзе...
Падыходзяць ўжо да лесу. Бульбаш:
- Слухай, браце, я гляджу - на самой справе дзед стары...
- Ну!
- Дый кволы нейкі...
- Ну!
- Дык можа давай яму стрэльбу паднясем?

Толькі РАЗАМ

інфармацыйны бюлетэнь
№ 7 (12) кастрычнік 2011 г.

выходзіць штомесяц
распаўсюджваецца бясплатна
рэдактары:
Quo Vadis, Welbark

капіраванне дазваляецца
толькі ў вялікай колькасці
welbark@gmail.com
наклад: 200 асобнікаў